# наша свабода

**№10** ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

**28 САКАВІКА 2000 года АЎТОРАК**

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




стар.3

# Дзень Волі, Мінск, 25 сакавіка

## Рэжым Лукашэнкі жорстка расправіўся з удзельнікамі свята

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Падзеі ў Мінску падчас святкавання Дня Волі пахавалі ўсе надзеі некаторых палітыкаў ды міжнародных арганізацыяў на нейкія перамовы ці дыялогі з рэжымам. БТРы, вадамёты, безліч спецназа на вуліцах Мінска, патрулі, якія цкавалі сваімі сабакамі жанчын, болей за 500 арыштаваных, сярод якіх журналісты, замежныя дыпламаты, назіральнікі і дэпутаты парламента – усё гэта нагадвала вайсковы путч у афрыканскай «глыбінцы».**



25 сакавіка цэнтр Мінска, плошчы Перамогі і Якуба Коласа былі заблакаваныя апранутымі ў бронекамізэлькі з працівагазамі на поясе міліцыянтамі. Задоўга да пачатку акцыі на плошчах горада з'явіліся БТРы і вадамёты. Паўсюль «гулялі» ўзмоцненыя патрулі з сабакамі без намордлікаў. Пачаліся «прэвентыўныя» затрыманні. У11.00 каля кінатэатра «Кастрычнік» быў затрыманы журналіст «Нашай Нівы» Славамір Адамовіч. За 15 хвілінаў да акцыі арыштавалі дэпутата Вярхоўнага Савета Анатоля Лябедзьку і мастака Алеся Пушкіна. Усіх, хто ішоў у бок плошчы Якуба Коласа, дзе збіраліся ўдзельнікі святочнага шэсця і мітынгу, адпраўлялі ісці ў абход ці скіроўвалі ў дворы. Тым не менш вялікія групоўкі людзей пачалі збірацца каля будынка філармоніі і на ходніках да Камароўскага рынку. Міліцыянты затрымлівалі ўсіх «падазроных».

Асабліва яны стараліся каля сядзібы БНФ, дзе, уласна кажучы, і пачалі разгортвацца падзеі. Спачатку людзі ў цывільным паспрабавалі затрымаць актывіста Маладога Фронту Яўгена Афнагеля. Той вырваўся, але яго пхнулі тварам на шкло, тое разбілася, а Яўген парэзаўся. Нехта з дружыннікаў БНФ заўважыў праз акно, што будынак блакіраваны АМАПам. Спроба прарвацца не ўдалася, за выключэннем двух-трох чалавек, паўсотні дружыннікаў, а таксама Віктар Івашкевіч былі затрыманыя, жорстка збітыя і завезеныя ў РАУСы.

У гэты самы час пачала абвастрацца сітуацыя на плошчы Якуба Коласа. Спачатку міліцыянты ўзялі ўсіх прысутных у шчыльнае кола, і праз хвіліну пачаўся масавы «хапун» самы буйны за апошние дзесяцігоддзе беларускай гісторыі. Найбольш затрыманых было на пляцы перад філармоніяй. Людзей хапалі, лупцавалі дубінкамі, «каб не рыпаліся», і цягнулі ў варанкі і аўтазакі. Прычым хапалі і лупілі не разбіраючы ўсіх, хто трапляўся пад руку: жанчын, старых, выпадковых мінакоў. Ад затрымання не ратавала і журналісцкае пасведчанне. Былі збітыя дубінкамі і закінутыя ў машыны рэпарцёры і супрацоўнікі ОРТ, НТВ, РТР і многіх беларускіх і замежных газет. Не пашкадавалі нават аператара з БТ, які атрымаў удар па галаве і заняў месца ў варанку побач з дэманстрантамі. У «аўтазаку» апынуўся і намеснік старшыні КНГ АБСЕ на Беларусі Крыстофер Паніко. Усяго міліцыянты правялі тры хвалі «зачысткі», як яны самі называлі па рацыях гэтую акцыю. Агульная колькасць затрыманых набліжалася да паўтысячы!


Фота IREX/ProMedia

Затрыманыя не супраціўляліся, і ўсё ад гэтага выглядала яшчэ жудасней. Людзей выцягвалі з прадуктовых крамаў, з чэргаў, з падземных пераходаў, цкавалі сабакамі. АМАПам былі патаптаныя прынесеныя дэманстрантамі плакаты і лозунгі, у тым ліку «Абаронім наш АМАП ад паездак у Чачню». Відаць, усё ж такі вельмі ім хочацца туды папасці. Праз гадзіну напакаваныя «жывым грузам» аўто пачалі раз'язджаца па РАУСах, а калі там стала не хапаць месца, быў задзейнічаны спецыяльна падрыхтаваны спартзал вайсковай часткі на вуліцы Маякоўскага, 111. Туды было звезена больш за дзвесце дэманстрантаў, каля трыццаці журналістаў і затрыманыя дэпутаты польскага Сейма і супрацоўнік місіі АБСЕ ў Мінску. Гэтая спартыўная ўстанова стала нагадваць сумнавядомы стадыён у Сант'яга падчас Піначэтаўскага путчу.

Тым часам людзі арганізаваліся ў дзве калоны і рушылі ў бок плошчы Бангалор, дзе быў дазволены мітынг, па ходніках вуліцаў Сурганава, Веры Харужай і Багдановіча. Калоны разрасталіся, і да месца дайшло ўжо каля 7 тысяч чалавек.

Жорсткія паводзіны беларускай міліцыі выклікалі рэзка негатыўны рэзананс ва ўсім свеце. Зламаныя камеры журналістаў з РТР і ОРТ, разбітыя акуляры Наважылава з ОРТ справакавалі жорсткія рэпартажы расійскіх журналістаў, якія чарговы раз на сабе адчулі «прывабнасць» «дэмакратыі» па-беларуску. Сусветная прэса таксама не засталася ўбаку. Рэпартажы з Мінска паказваюць усе сусветныя тэлекампаніі: *CNN, EURONEWS, BBC* і інш.

Першай рэакцыяй польскага МЗС стала патрабаванне падрабязных тлумачэнняў.

Прыйшоў водгук з канферэнцыі «Цэнтральна-еўрапейская ініцыятыва», што адбываецца ў Варшаве. Прысутныя там прадстаўнікі з краінаў Цэнтральнай Еўропы выказалі абурэнне паводзінамі ўладаў і падтрымалі дзеянні дэмакратычнай апазіцыі. Думаецца, прыклады больш жорсткай рэакцыі не прымусяць сябе чакаць.

А ў панядзелак «пакрыўджаныя» журналісты збіраліся ў БАЖы з мэтаю абмеркаваць падзеі 25 сакавіка.

На нядзельны ранак з прыкладна пяцісот затрыманых у сценах спецпрыёмніка - размеркавальніка заставалася каля 150 чалавек. Сярод тых, каго будуць судзіць, ёсць таксама журналісты: Алег Груздзіловіч з НАШАЙ СВАБОДЫ, Ірына Халіп з «БДГ» і некаторыя іншыя супрацоўнікі незалежных СМІ. Згодна з міліцэйскімі пратаколамі, яны «парушалі грамадскі парадак і заклікалі да ўсеагульнага непадпарадкавання». Некаторым не вярнулі забраныя пашпарты, іншыя дакументы. Многія пасля вызвалення заяўлялі, што падчас затрымання і транспарціроўкі ў РАУСы іх абражалі, білі дубінкамі і нагамі. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Беларусь і Аб'яднаныя Арабскія Эміраты дамовіліся аб супрацоўніцтве.** Пра гэта паведаміла Беларускае тэлебачанне. Форма супрацоўніцтва выглядае вельмі дзіўна: ААЭ бяруцца прадстаўляць беларускія інтарэсы на Блізкім Усходзе – а Беларусь хоча прадстаўляць інтарэсы Эміратаў у Еўропе. Так сказаў Аляксандр Лукашэнка. Магчыма, што Беларусі сапраўды патрэбны надзейны пасрэднік сярод арабскіх дзяржаваў. Аднак вельмі сумнеўнай прадстаўляецца патрэба адной з найбагацейшых краінаў свету ў пасрэдніцтве Беларусі. Ім сваіх такіх «пасрэднікаў» хапае.

■ **У нядзелю ўступіў у сілу Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь.** У адпаведнасці з ім увосень 2000 года ў Беларусі пройдуць парламенцкія выбары, а ў 2001 годзе – выбары прэзідэнта краіны. Афіцыйныя ўлады лічаць, што Выбарчы кодэкс адпавядае ўсім агульнапрынятым дэмакратычным стандартам. Аднак апазіцыя і шэраг міжнародных арганізацыяў, у прыватнасці АБСЕ, далі негатыўную ацэнку дадзенаму дакументу.

■ **Беларускія банкі выдзеляць аграпрамысловаму комплексу краіны на правядзенне вясеннепалявых работаў 40 мільярдаў рублёў.** На сёння імі ўжо выдаткавана крыху болей за 7 мільярдаў рублёў. Акрамя таго, паводле словаў старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Пятра Пракаповіча, банкі таксама выдзеляць крэдыты на нарыхтоўку збожжа. Галоўны банкір Беларусі падкрэсліў, што рэсурсы на гэтыя мэты ў банкаўскай сістэмы ёсць.

■ **Учора сталі вядомыя папярэднія вынікі прэзідэнцкіх выбараў у Расіі. Як і чакалася, прэзідэнтам – яшчэ ў першым туры – быў абраны Уладзімір Пуцін.** Ягоны вынік – 52,5% галасоў. Галоўны канкурэнт У.Пуціна – камуніст Генадзь Зюганаў – набраў каля 30%. Чакаецца, што цырымонія інаўгурацыі новага расійскага прэзідэнта адбудзецца ў пачатку траўня.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**925**

## Паважаныя чытачы!

## Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА абвяшчае падпіску на II квартал 2000 г.

Вы зможаце атрымоўваць нашу газету з красавіка 2000 г., калі пералічыце паштовым пераводам падпісную суму на адзін (675 руб.), два (1350 руб.) або тры (2025 руб.) месяцы на разліковы рахунак рэдакцыі: **3012205160015 у аддзяленні «Цэнтральнае» ААТ «Белбізнесбанк» г.Мінска, код 493. Адрас: 220123, г.Мінск, п/с 103. Атрымальнік плацяжу: Рэдакцыя газеты «Наша Свабода».**

У графе «для пісьмовага паведамлення» **адзначце свой паштовы адрас, укажыце, з якога месяца і на які тэрмін Вы афармляеце падпіску.**

Паштовы перавод, які можна зрабіць у любым аддзяленні сувязі краіны ў любы час, забяспечыць вам дастаўку газеты з пачатку наступнага каляндарнага месяца.

Падпісчыкам газеты НАВІНЫ, што прыслалі ў рэдакцыю копіі сваіх падпісных купонаў, якія аформілі падпіску на 2-ое паўгоддзе 1999 г. з ліпеня, жніўня або верасня 1999 г., газета НАША СВАБОДА будзе дастаўляцца бясплатна. Рэдакцыя дзякуе ўсім, хто быў з намі гэтыя месяцы, за падтрымку і давер, завярае, што мы зробім усё, што ад нас залежыць, каб НАША СВАБОДА беспярабойна і своечасова дастаўлялася як новым, так і сталым нашым падпісчыкам.

# Людзі без імёнаў

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

Хто саромеецца сваіх учынкаў, не называе сваё імя. Падзеі 25 сакавіка пераканалі мяне, што большасць міліцыянтаў саромеюцца той карнай ролі, якую ім адвяло начальства. Бо можа і існуе загад не называцца, аднак няма загаду не адводзіць вочы. А маладыя міліцыянты, калі пытаешся ў іх «За што?» і патрабуеш назвацца, маўчаць і глядзяць убок. Магчыма, ім сорамна. Пакуль. Але не бойцеся хлопцы, гэта не назаўсёды. Гісторыя даказала, што сорам і сумленне «праходзяць» па меры таго, як грамадства ўцягваецца ў вір узаконенага беззаконня. Сорам і сумленне асобных людзей, як грахі царквою, адпускаюцца дзяржавай, якая сама жыве па звярыных законах.

Адной з першых ахвяраў такога парадку становіцца наша міліцыя. Сцвярджаю як сведка падзеяў 25 сакавіка побач з філармоніяй, што і на гэты раз ніхто міліцыю не чапляў, нават не абражаў, тым больш, не кідаў каменне. Людзі паводзілі сябе мірна, іхнае стаянне ніяк не назавеш правакацыяй міліцыянтаў на ўжыванне сілы. Памятаю сталага ўзросту жанчыну з іконкай у руках, якая паўтарала «салдацікі, салдацікі...» Што адбылося з ёй далей, не ведаю, бо быў схоплены і зацягнуты ў аўтобус, дзе мяне спачатку некалькі разоў ударылі па твары, відаць, для прафілактыкі, а потым малады сяржант надзеў на мяне кайданкі. З заламанымі за спіну рукамі я патрабую, каб мае захопнікі назвалі сябе, указалі частку, дзе служаць, ці хаця б сфармулявалі сваe прэтэнзіі. Зрэшты, прадстаўляюцца ж супрацоўнікі ДАІ, калі спыняюць маю машыну за нейкае парушэнне, і толькі потым штрафуюць (а часцей і не штрафуюць, даведаўшыся, што прадстаўляю апазіцыйную прэсу)! І вось я патрабую: «Хто вы, за што мяне затрымалі?» і ў адказ : «Маўчы, а то...» Потым — «а то». Але я ўпарта патрабую ад яго назвацца, і раптам кулакі сяржанта расціскаюцца, позірк ужо не такі варожы. На жаль, побач знаходзіцца ягоны камандзір, прапаршчык гадоў пад сорак. Той працягвае рычаць і кідацца на ўсіх, хто дамагаецца чалавечага абыходжання. Настрой надзвычайнай агрэсіўнасці зноў авалодвае маім «ахоўнікам». Я адчуваю, што мы ўсе для яго бандыты, якіх трэба «мачыць».



Падпалкоўнік у крапавым бярэце камандаваў аперацыяй па затрыманні тэлевізійных групаў ОРТ і РТР, падчас якога былі пашкоджаныя дзве тэлекамеры. Тэлежурналісты некалькі гадзінаў знаходзіліся на тэрыторыі часці ўнутраных войскаў. Крапавы бярэт лічыцца сімвалам вайсковай доблесці. Калі «доблесць» у тым, каб хапаць аператараў і біць камеры, тады гэты афіцэр – самы яскравы яе прыклад. Краіна мусіць ведаць сваіх герояў

У ангары на Маякоўскага, куды звезлі ахвяраў «зачысткі», супрацьстаянне працягваецца. Пастаяць за сябе там лягчэй, бо нас ужо больш за дзвесце. Разам можна павярнуцца да вартаўнікоў спіной, можна сустрэць воклічам «Жыве Беларусь!» прэссакратара міліцэйскага міністра. Ён на гэта па-галівудску ўсміхаецца. Нас пачынаюць дзяліць на «чыстых» і «нячыстых». Пасля сыходу большасці журналістаў працягваюць тых, хто мае дакументы і хто такіх не мае. Пакуль нашыя прозвішчы правяраюць, праходзіць яшчэ гадзіны тры. Мы спрабуем высветліць, хто нас усё ж трымае і за што. Адказу не даюць. Нарэшце падпалкоўнік з міністэрства ўнутраных справаў шчыра прызнаецца, што сам не ведае, чаму мы тут знаходзімся без тлумачэнняў больш чатырох гадзінаў, калі па законе дазваляецца толькі тры. Дык мы вольныя? Падпалкоўнік усміхаецца і ківае. Усе разам выходзім з ангара, салдаты нам не перашкаджаюць, мы даходзім ледзь не да плота, вартаўнік ужо расчыніў перад намі браму. Бачна па ягоным твары, ён таксама задаволены добрай канцоўкай гэтай гісторыі. Але раптам за спіной, як стрэл, гучыць загад «Спыніць іх!», і за намі кідаюцца амапаўцы ў касках. Мы не ўцякаем. Разумеем, гэта была гульня кошкі з мышшу. З нас хацелі зрабіць уцекачоў, каб потым вылавіць у дварах ды яшчэ, магчыма, зарабіць на гэтым медалі. Не ўдалося. За гэта нас штуршкамі вяртаюць у ангар, а Анатоля Лябедзьку яшчэ і б'юць нагамі. Старлей-амапавец, які збіваў Лябедзьку, назваць сябе адмаўляецца. Ён кідае на нас позіркі-маланкі і кажа, што нас варта страляць. Астатнія міліцыянты, з якімі мы правялі ў ангары палову дня, з ім не спрачаюцца, але і не выказваюць падтрымкі. На іхных тварах сум і жаданне хутчэй разысціся па дамах.

Потым былі калідоры ды пакоі Партызанскага райаддзела міліцыі, куды нас прывезлі для складання пратаколаў. Там як самнамбулы ледзь рухаліся людзі ў плямістай вопратцы. Відаць, апрацавалі ўжо не адзін дзесятак затрыманых. Пакуль афіцэры складалі пратаколы, шэрагоўцы прыдумлялі супраць нас пакаранні. Не саромеючыся нашай прысутнасці, пыталіся ў начальнікаў пра «фабулу». Пэўна, гэта азначае, дзе адбывалася «затрыманне», у які час, у чым вінаваты затрыманы. Усё павінна сысціся. «Глядзі, не пераблытай, Кутузаў!» Хударляваму маладому міліцыянту даручылі ў судзе засведчыць, што я быццам бы «заклікаў не падпарадкоўвацца міліцыі». Кажу, што гэта паклёп, пытаюся, ці не сорамна міліцыянтам быць ілжэсведкам. «Ой, мы зараз расчулімся і заплачам», — адказвае капітан, а малады міліцыянт усё ж адводзіць убок вочы. Паглядзім, куды ён схавае свае вочы ў судзе, калі прыйдзецца агучыць тое, што напісаў пад дыктоўку начальніка. ■



Праз некалькі секундаў аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага пацягнуць у міліцэйскую машыну.



## Хваля акцыяў пратэсту ў Дзень Волі, 25 сакавіка, пракацілася па ўсёй Беларусі

### Брэст

Некалькі соцень чалавек узялі ўдзел у мітынгу, які адбыўся 25 сакавіка ў Брэсце. Арганізатарамі акцыі выступілі практычна ўсе дэмакратычныя партыі і арганізацыі горада.

Мерапрыемства была санкцыяванае ўладамі, аднак правесці яго дазволілі не на цэнтральнай плошчы горада, а на аддаленым ад цэнтра стадыёне «Будаўнік». На трыбунах стадыёна лунালі нацыянальныя бел-чырвона-белыя сцягі, гучалі беларускія вершы і песні.

Не абышлося і без правакацыяў — на стадыёне з'явіліся пяцёра маладых людзей з дзяржаўнымі сцягамі, якія спрабавалі прыцягнуць да сябе ўвагу. Аднак да сутыкненняў паміж удзельнікамі мітынгу і людзьмі са сцягамі не дайшло.

### Віцебск

У Віцебску міліцыя затрымала больш за дзесяць удзельнікаў святкавання Дня Волі, у тым ліку вядомага апазіцыянера Валерыя Шчукіна.

Каля дзесятка грамадзянаў, якія накіроўваліся пад бел-чырвона-белымі сцягамі на Ратушную плошчу – да месца збору ўдзельнікаў акцыі, былі спыненыя міліцэйскімі сіламі на плошчы Свабоды. У выніку санкцыяваныя віцебскімі ўладамі шэсце і мітынг не адбыліся.

Валерый Шчукін пасля арышту абвясціў, што пачынае галадоўку пратэсту.

### Гомель

Тут група грамадзянаў правяла пікетаванне. Пікетчыкі — каля 15 чалавек — трымалі плакаты з лозунгамі ў падтрымку развіцця Беларусі як суверэннай дзяржавы. Іх «ахоўвалі» не менш за 8 чалавек — як у цывільным, так і ў міліцэйскай форме.

### Магілёў

У Магілёве 25 сакавіка адбыліся святочныя шэсце і мітынг, прысвечаныя Дню Волі. Арганізатары атрымалі дазвол на правядзенне мерапрыемстваў на аддаленай ад цэнтра горада пляцоўцы. Аднак удзельнікі акцыі сталі збірацца а 12-й гадзіне на адной з цэнтральных плошчаў горада – пл. Арджанікідзе, адкуль рушылі да месца правядзення мітынгу.

Шэсце налічвала каля 500 удзельнікаў, іх суправаджала 8 патрульных машынаў міліцыі і аўтобус з АМАПам. Ніякіх перашкодаў арганізатарам мерапрыемстваў з боку праваахоўных органаў не чынілася.

Позву ў суд атрымаў А.Фёдараў – старшыня мясцовай філіі БНФ.

### Бабруйск

У Бабруйску каля 300 чалавек сабраліся на цэнтральнай плошчы горада, віншавалі адзін аднаго са святам, раздавалі праваабарончую літаратуру. Мітынг не праводзіўся. Калі людзі сталі разыходзіцца, невядомыя ў цывільным пачалі затрымліваць грамадзянаў. Былі затрыманыя намеснік старшыні Бабруйскай філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» А.Чыгір, загадчык грамадскай прыёмнай Беларускага Хельсінкскага Камітэта В.Свізуноў, журналіст І.Хіцько – усяго каля 20 чалавек.

### Баранавічы

У Баранавічах на святочны мітынг сабралася каля 500 чалавек. Мітынг прайшоў спакойна. Пасля яго заканчэння міліцыя затрымала аднаго чалавека.

### Гродна

25 сакавіка гродзенцы сабраліся на Савецкай плошчы, дзе ўлады не далі дазволу правесці мітынг. Адтуль гараджане накіраваліся ў Новы парк — месца, дзе гарвыканкам дазволіў мітынгаваць. На мітынгу прысутнічала больш за дзве тысячы чалавек.



Фота REX ПроМедыя

Але перад тым былі два інцыдэнты. Спачатку міліцыя не хацела прапусціць калону на пешаходную вуліцу Савецкую. Пазней, калі людзі рушылі наперад, выбеглі 50 амапаўцаў у шлемах, якія перагарадзілі вуліцу, стаўшы ў баявую стойку. Калона мусіла збочыць. Мітынг вёў адзін з яго арганізатараў — С.Мальчык, кіраўнік гарадской Рады БНФ. Апроч прамоваў, былі спевы (спяваў В.Шалкевіч).

Было зачытанае прывітанне ад М.Кшаклеўскага — кіраўніка польскай «Салідарнасці». Прысутныя прынялі рэзалюцыю, у якой, перш за ўсё, патрабуецца правесці адкрытыя дэмакратычныя выбары. Была падтрыманая ідэя правесці Усебеларускі з'езд. Публіцы была прадстаўленая вялізная шайба з лукашэнкавым партрэтам. Быў спалены расійскі сцяг, а на флагштоку ўзняты — адначасова беларускі і сцяг еўрапейскага саюза.

Акцыі ў Дзень Волі 25 сакавіка прайшлі таксама ў Оршы, Свіслачы, Воранаве, Шчучыне, Смаргоні, Полацку, Навапалацку, Дзятлаве, Лідзе, Мастах, Слоніме, Пінску, Салігорску. У іх бралі ўдзел ад некалькіх дзесяткаў да некалькіх сотняў чалавек.

Па папярэдніх звестках, па ўсёй Беларусі (апроч Мінска) затрымана каля 100 чалавек. ■

# Списки людей,

## арестованных милицией в День Воли 25 марта

Участники акции, журналисты, иностранные наблюдатели, просто прохожие – всего **в День Воли на улицах Минска было арестовано около 500 человек.** В спортзале воинской части на улице Маяковского, 111 содержался 201 человек. В специальном приемнике-распределителе на улице Окрестина – более 100 человек. В каждом управлении и отделе внутренних дел города удерживалось от 30 да 80 человек. В течение дня 25 марта они, по словам оперативного дежурного МВД, находились в «фильтрационных пунктах», где «отсеивали дебоширов». Таким образом, **25 марта в Минске произошли самые массовые аресты за всю историю суверенной Беларуси.**


Фота Ул.ШЛАПАКА

Представителей прессы и иностранцев выпустили через несколько часов после задержания. Потом начали выпускать несовершеннолетних и тех, у кого были при себе документы. Их заносили в списки, снимали отпечатки пальцев, снимали на видео.

**По данным правозащитного центра «Вясна» на вечер 26 марта, в специальном приемнике-распределителе на улице Окрестина переночевало и ждало судов до 150 человек.** Отпущенным на свободу также предписано явиться утром 27 марта в РОВД Советского района за повестками в суды.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Всего в правозащитном центре «Вясна» есть уже более 100 заявлений от граждан, незаконно арестованных 25 марта в центре белорусской столицы.

Усилиями белорусских правозащитников эти списки будут уточнены и дополнены. **Согласно заявлению Amnesty International, 25 марта в Беларуси появилось 500 Узников Совести.**

Были задержаны **журналисты**: Ирина Халип (газеты «Имя»), Олег Груздилович («Наша Свабода»), Татьяна Снитко («Наша Нива»), Марина Бабкина («Асошиэйтэд-пресс»), Алексей Шидловский («Наша Свабода»), Егор Майорчик (белорусская служба радио «Свобода»), Альгерд Неверовский, Вадим Казначеев (журнал «Курьер»), Любовь Лунёва (белорусская служба радио «Свобода»), Владимир Кормилкин, Лариса Ключникова (ИТАР-ТАСС), Алена Лукашевич (РТР), Сергей Пушкин (РТР), Дмитрий Завадский (ОРТ), Дмитрий Новожилов (ОРТ), Константин Морозов (НТВ), Александр Колпаков (НТВ), Леонид Канфер (ТВЦ), Татьяна Попова (газета «Згода»), Александр Томкович (газета «Свободные новости»), Славомир Адамович («Наша Ніва»), Валерий Дранчук («Белавежская пушча»), Сергей Михальчук, Юрий Дединкин (фотограф), Полина Степаненко (бюллетень правозащитного центра «Вясна» «Право на волю»).

**Были задержаны представители правозащитных организаций** Беларуси: Татьяна Протько (председатель Белорусского Хельсинкского Комитета), Олег Волчек (председатель «Правовой помощи населению»), Валентин Стефанович (заместитель председателя правозащитного центра «Вясна», наблюдатели: Вадим Канапацкий, Алесь Сарнацкий, Кирилл Базьникин, Алесь Данильчик (ПЦ «Вясна»), Змитер Маркушевский (Белорусский Хельсинкский Комитет).

**Были задержаны лидеры партий и движений**: Анатоль Лебедько (депутат Верховного Совета 13-го созыва, заместитель председателя Объединенной Гражданской партии), Виктор Ивашкевич (заместитель председателя Белорусского Народного Фронта, главный редактор газеты «Рабочий»), Юрась Беленький (исполняющий обязанности Консервативно-Христианской партии БНФ), Яков Гутман (президент Международной ассоциации белорусских евреев). Анатоль Лебедько был избит ногами по почкам.

**Задержаны граждане Польши**: Майя Лантковска, Клаудьюш Весолэк, Якуб Опара, Матий Гельберг, Артур Тибетски.

**Несмотря на дипломатический иммунитет**, на несколько часов были задержаны депутат польского Сейма Мариуш Камински и представитель миссии ОБСЕ Кристофер Панико.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Правозащитный центр «Вясна» вечером 25 марта располагал следующими сведениями **о задержанных гражданах**: Микалай Хаткевич, Николай Степаненка, Семён Дзенис (71 год, пенсионер, житель Молодечно), Игорь Захарья, Станислав Нагорски, Сяржук Михальчук, Андрусь Бандарович, Генадь Гумарав, Андрей Машко, Александр Рапека, Валерий Руденко (автор известной карикатуры на ведущего программы «Рэзананс» Александра Зимовского), Алексей Паньчковский, Вячеслав Милковский, Зоя Рузанава (избита), Микола Евмененко, Катерина Евмененко (ученица 10 класса, 16 лет), Алесь Михнов, Александр Зосимов, Вадим Берозкин, Анатоль Рабковец, Лявон Кавальчук, Пётр Кравчук, Марина Азаронак, Шатэрник, Алексей Голиков, Стась Карашченко, Сергей Дулуб, Михась Гладухов (г.Мосты), Алесь Бондарев, Алесь Микулич, Вадим Сорокин, Иван Курманович, Иван Адаменко (г.Гомель), Виктар Демидович, Лявон Садовский, Всеволод Синяк, Анатоль Саванович, Павал Синяк (сильно избит, забрала «скорая помощь»), Ганна Севостьянова, Александр Карасик, Генадь Жуковский, Алейникова, Николай Новик, Генадь Лойко, Алексей Черняев, Андрей Шевченко (избит до потери сознания), Виктор Явич, Александр Сушкевич, Антон Артеменко, Лявон Жевжик, Алексей Балашев, У.М. Вишневский, Людмила Зябко, Анатоль Горбач, Вадим Болбас, Андрей Асмаловский, Виталь Падоляк, Игорь Картэль, Константин Кузнецов, Игорь Курец, Сергей Кухаренко, Сергей Луц, Иван Лысенко, Иван Малофеев, Майя Кляшторная, Алесь Микулич, Патапёнок, Антон Пигулевский, Олег Пронин, Алексей Рамеха, Ян Розум, Илья Рефтов, Михаил Шеремет, Григорий Кийко, Алексей Фролов, Евгений Кардаш (сильно избит).

*Все списки задержанных уточняются.*


Фота IREX/ProMedia

ПАЛІТЫКА

# Апазіцыя збіраецца гуляць па сваіх правілах

Рыгор БУЯН

**Кансультатыўны савет палітычных партыяў разглядзеў праект рэгламенту «шырокага грамадска-палітычнага дыялога», які перадаў апазіцыі чыноўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Ігар Велічанскі. Дакумент надзвычай цікавы, але ні пра ягонае аўтарства, ні пра мэты, з якімі ён быў перададзены ў Кансультатыўны савет, прадстаўнікам аб'яднанай апазіцыі нічога невядома. Адзін з экспертаў, Уладзімір Нісцюк, лічыць, што ўлада спрабуе ўцягнуць апазіцыю «ў агульную арбіту дыялога», адкуль выйсця няма.**

Найбольш істотныя палажэнні праекта рэгламенту датычаць, вядома ж, прыняцця рашэнняў у ходзе «дыялога» і складу яго ўдзельнікаў. Невядомыя аўтары прапануюць «рашэнні па ўсіх пытаннях, якія разглядаюцца ўдзельнікамі дыялога, прымаць кансенсусам». А «кансенсус вызначаецца як адсутнасць пярэчанняў хоць бы аднаго ўдзельніка дыялога». Перакладаўшы на людскую мову, гэта азначае: калі хоць адзін удзельнік «дыялога» выступае супраць рашэння па нейкім пытанні, яно не прымаецца. Фактычна невядомыя аўтары ўзялі на ўзбраенне механізм АБСЕ, у якім дзейнічае прынцып вета: калі хоць адна з 54-х краінаў-членаў АБСЕ выступае супраць рашэння, яно не прымаецца. Разумеючы пагрэшнасць такога прынцыпу, старшыня ПА АБСЕ Хеле Дайн яшчэ на стамбульскай сустрэчы заявіла: «Наўрад ці можна гаварыць пра дэмакратыю, калі адна краіна можа заблакіраваць агульнае волевыяўленне 53 іншых і не дапусціць прыняцця важных і своечасовых дзеянняў, калі ў іх ёсць неабходнасць. Мы паслядоўна выступалі за невялікую карэкціроўку працэдуры прыняцця рашэнняў, якая азначала б недапушчэнне магчымасці выкарыстання вета якой-небудзь адной краінай». І такі прынцып ужо з'явіўся: кансенсус мінус адзін. Інтрыга, закладзеная ў прапануемым механізме, зразумелая: з 80 суб'ектаў «дыялога» (як сцвярджае І.Велічанскі, гэта – 70 грамадскіх аб'яднанняў і 10 палітычных партыяў) заўсёды знойдзецца адзін незадаволены, які будзе блакіраваць прыняцце нявыгадных для ўладаў рашэнняў. Зрэшты, увесь «дыялог» згубіць сэнс, калі прыняць прапанову аб тым, што «ўсе рашэнні прымаюцца ў форме рэкамендацыяў».

Больш за тое, прапануемы праект рэгламенту зводзіць ролю міжнародных арганізацыяў, у тым ліку місіі АБСЕ ў Мінску, на нішто, з чым апазіцыя пагадзіцца ніяк не можа. «Прадстаўнікі арганізацыяў, якія не з'яўляюцца ўдзельнікамі дыялога, а таксама прадстаўнікі міжнародных арганізацыяў могуць па рашэнні ўдзельнікаў дыялога прысутнічаць на дыскусіях у якасці назіральнікаў», – гаворыцца ў праекце дакумента. Відавочна, што Кансультатыўны савет пагадзіцца з такімі абсурднымі прапановамі ніяк не мог, таму і даручыў намесніку старшыні БНФ Юрыю Хадыку разам з экспертамі выпрацаваць уласную пазіцыю па рэгламенце. Гаворыць Ю.Хадыка: «Мы прынялі рашэнне ўнесці свае папраўкі ў праект рэгламенту, прапанаваны Велічанскім, якія дазволілі б вывесці шырокі расплывісты дыялог у працэс перамоваў, па якім ужо існуе рэгламент, распрацаваны ў мінулым годзе. І трэба надаць прымаемым рашэнням абавязковы характар, а не рэкамендацыйны... Прапануемы рэгламент надае вялікую ролю аналітычнаму цэнтру, характар фармавання якога ніяк не вызначаны; падругое, уводзіцца правіла вета ў дыялогу, дзе могуць адначасова ўдзельнічаць да 250 чалавек, што робіць сам працэс бессэнсоўным; і выпрацоўка рашэнняў рэкамендацыйнага характару, што з'яўляецца неэфектыўным».

Кансультатыўны савет палітычных партыяў, за выключэннем сакратара ЦК Партыі камуністаў Алены Скрыган, аднагалосна прыняў заяву па 25 сакавіка. Падкрэсліўшы мірны характар Маршу Свабоды-2, аб'яднаная апазіцыя расцаніла забарону ўладамі мірнага шэсця «як працяг цынічнай антыбеларускай палітыкі, як дзеянні, накіраваныя на стварэнне атмасферы недаверу і супрацьстаяння ў грамадстве, зрыў чакаемых перамоваў улады і апазіцыі па перадаленні вострага палітычнага крызісу на Беларусі». Апазіцыя лічыць, што забаронай шэсця ўлады «наўмысна правакуюць усіх, хто не згодны з іх палітыкай і дзеяннямі, на правядзенне акцыяў грамадзянскага непадпарадкавання». ■

АКЦЫЯ

# Дзяцей «палітычных» – у Швецыю

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Дзеці беларускіх палітзняволеных паехалі на адпачынак у сталіцу Швецыі Стакгольм 20 сакавіка. У іх ліку Наталля і Зоя Кудзінавы, Дар'я і Яўгенія Пігуль (унукі Валерыя Шчукіна), Ксенія Разумовіч (дачка Андрэя Клімава), Валер Лабковіч, Ганна Статкевіч, Ганна Лыско, Марыя Брэхава, Алеся Сарокіна і двое суправаджаючых – Таццяна Леановіч (жонка Андрэя Клімава) і Зоя Кудзінава.

Дзесяцідзённы візіт у Швецыю, а менавіта ў гарадок пад назвай Ліксель, быў падрыхтаваны шведскім партнёрам грамадзянскай ініцыятывы Хартыі'97 «Унга Орнарс Рыксфорбунд» і асабіста каардынатарамі праекта Інгер Рыберг і Тэдом Бірчам.

Дзецям будуць прапанаваныя адкрыты ўрок у мясцовай школе, паездка на снегаходзе, наведванне падземнай царквы ў Крыкстэнбергу, заняткі ў камп'ютэрным класе...

Гэта другая паездка на адпачынак дзяцей тых, хто пацярпеў ад беларускага рэжыму за палітычныя перакананні. У мінулым годзе Хартыя'97 арганізавала паездку дзяцей на адпачынак у Польшчу. ■

# «Незалежнасць – гэта ўжо найвялікшая каштоўнасць»

**Дзесяць гадоў таму была ўтвораная незалежная Літоўская Рэспубліка. Што змянілася ў жыцці літоўцаў за гэты час, як Літва інтэгруецца ў еўрапейскую супольнасць – пра гэта расказвае амбасадар Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі Йонас Паслаўскас.**

***— Дзесяць гадоў таму Літва абвясціла сваю незалежнасць. Што змянілася за гэтыя гады ў жыцці краіны?***

— Сапраўды, ужо мінула дзесяць гадоў ад таго дня, як 11 сакавіка 1990 года Вярхоўны Савет Літвы аднавіў незалежную Літоўскую дзяржаву. Гэтым актам ён ажыццявіў волю літоўскага народа.



Пасля гэтага ў жыцці Літвы былі і цяжкія моманты. Мы памятаем пра крывавыя падзеі ў Вільнюсе 13 студзеня 1991 года, пра эканамічную блакаду... Але гэта мы перажылі і пасля дзесяці гадоў незалежнасці можам падводзіць нейкія вынікі.

На маю думку, сама незалежнасць – гэта ўжо найвялікшая каштоўнасць. Мы маем магчымасць рабіць свой выбар. Як вялікае дасягненне магу адзначыць, што ў нас існуе пераемнасць ва ўнутранай і знешняй палітыцы. Прэзідэнты, парламенты, урады змяняюцца дэмакратычным чынам, і гэтак мы ствараем стабільнасць у краіне. Усе прыярытэты знешняй палітыкі, што былі даўно прадэклараваныя, – такія, як уваходжанне ў NATO, інтэграцыя ў Еўрасаюз, добрасуседскія стасункі з краінамі-суседзямі Літвы, – яны выконваюцца ўсімі кіраўнікамі, усімі ўрадамі, усімі парламентамі. Як чалавек, які непасрэдна займаецца знешняй палітыкай, я вельмі задаволены, што мы маем добрыя стасункі з усімі краінамі, у тым ліку і з Беларуссю.

***— Як жыхары Літвы цяпер ставяцца да таго выбару, які быў зроблены ў 1990 годзе?***

— Магу сказаць з упэўненасцю, што гэты выбар застаецца па-за пытаннем. Ён нават не дыскутуецца. Мы разумеем, што наш шлях за апошнія дзесяць гадоў не заўсёды быў усеяны ружамі. Калі Літва рабіла свой выбар 10 гадоў таму, усе нашыя крокі былі скіраваныя на тое, каб літоўскі народ дабіўся лепшага жыцця, болей камфортнага і бяспечнага. За гэты час адбыліся істотныя змены ў структуры гаспадаркі Літвы. Літва цяпер арыентуецца на сусветны свабодны рынак і сумленную канкурэнцыю, і мы інтэгруемся ў сусветную гаспадарку.

Пра пазітыўныя зрухі ў эканоміцы Літвы сведчаць некаторыя паказчыкі. Напрыклад, год таму рост нашага валавага ўнутранага прадукту быў адным з найболш высокіх у рэгіёне – 5,1%. Падвышаецца сярэдні заробак – цяпер ён складае каля 300 долараў. Сярэдняя пенсія ў нас – каля 100 долараў.

У нас вельмі заахвочваюцца замежныя інвестыцыі. Сёння мы маем больш чым 1,5 мільярда долараў прамых замежных інвестыцыяў – для такой невялікай краіны, як наша, дзе жыве толькі 3.700.000 чалавек, гэта вельмі істотна. Мы выкарыстоўваем гэтыя інвестыцыі ў рэканструкцыі нашых прадпрыемстваў, у абнаўленні і паляпшэнні тэхналогіяў, у стварэнні новых працоўных месцаў.

***— А як пры гэтым змянілася жыццё простых жыхароў Літвы?***

— У любой краме вы можаце пабачыць вельмі шырокі выбар тавараў. Істотна падвысіўся ўзровень абслугоўвання. У нас цяпер ёсць добрая інфраструктура для адпачынку. Не трэба забывацца пра стабільнасць нашай нацыянальнай валюты – літа. З 1993 года па сённяшні дзень гэта той самы курс – 4 літы на долар.

Ва ўмовах рынкавай эканомікі, у якіх мы жывем, змяніліся патрабаванні і да якасці працы, і да дысцыпліны працоўных. І цяпер людзі цэняць кожнае працоўнае месца. З другога боку, цэніцца таксама кожны ініцыятыўны, добрасумленны, працалюбівы чалавек.

Канешне, у гэты пераходны перыяд ёсць і незадаволеныя. Ёсць людзі, якія пры савецкай уладзе няшмат працавалі, але атрымоўвалі стабільны заробак. Яны не могуць прызвычаіцца, што цяпер у Літве новыя эканамічныя адносіны.

Зразумела, ёсць і праблемы. Мяне вельмі хвалюе ўзровень беспрацоўя, ён цяпер складае 7-8% — без уліку схаванага беспрацоўя. У нас вялікі дэфіцыт бюджэту. Сфера сацыяльнага забеспячэння патрабуе шматлікіх зменаў. Трэба прыкласці шмат высілкаў, каб спрасціць для маладых людзей набыццё жылля, падвысіць пенсіі для людзей паважанага ўзросту.

***— Якія краіны на сённяшні дзень з'яўляюцца асноўнымі партнёрамі Літвы?***

— Мы адкрытыя да ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з кожнай краінай. З некаторымі краінамі ў нас існуюць традыцыйныя эканамічныя стасункі – гэта Беларусь, Расія. З іншымі краінамі ў нас з'явіліся інвестыцыйныя сувязі – гэта Швецыя, ЗША.

У параўнанні з 1990 годам у знешнім гандлі адбыліся істотныя змяненні. Адно з іх – пераарыентацыя з усходняга на заходні рынак. Паводле дадзеных Дэпартамента статыстыкі Літвы, доля Еўрасаюза ў 1991 годзе складала толькі 2% абароту знешняга гандлю Літвы. А ў 1999 годзе доля ЕС сягнула 50%. У той жа час доля гандлю з краінамі СНД за гэты перыяд знізілася з 85 да 22%. Гэтая тэндэнцыя ўзмацнілася пасля крызісу ў жніўні 1998 года ў Расіі.

Цяжкасці з экспартам прадукцыі ў Расію, неплацежаздольнасць пакупнікоў літоўскіх тавараў, падзенне курса рубля, вялікія мытныя зборы прывялі да таго, што, па меркаванні літоўскіх прадпрымальнікаў, ім стала цяжка працаваць на ўсходнім рынку. Яны сталі шукаць новыя накірункі для экспарту прадукцыі на Захад.

Цяпер адбываюцца кардынальныя захады па абнаўленні тэхналогіі і паляпшэнні якасці літоўскай прадукцыі. Шмат якія тавары сталі канкурэнтаздольнымі на заходніх рынках – гэта вырабы нашай лёгкай прамысловасці, у асаблівасці тэкстыль. Калісьці нам здавалася немагчымым выйсці на перанасычаны заходні рынак з сваімі прадуктамі, але ў нас гэта атрымалася. Цяпер яны паспяхова канкурыруюць з заходнімі. Пры гэтым якасць тавараў не горшая, а цэны параўнальныя.



Такім чынам, расійскі крызіс прымусіў нашых вытворцаў думаць пра тыя стандарты, якія прынятыя на заходнім рынку. Бяда нарадзіла карысць для літоўскіх бізнесменаў.

***— Як бы вы ацанілі ўзровень супрацоўніцтва паміж Літвой і Беларуссю?***

— Паміж нашымі краінамі не існуе невырашальных праблемаў. Нашы стасункі дынамічныя, бо мы суседнія дзяржавы. Возьмем эканоміку: два гады таму наш тавараабарот сягаў 500 мільёнаў долараў – для такіх дзвюх параўнальна невялікіх краінаў, як нашыя, гэта вялікая лічба. Летась, праўда, ён зменшыўся да 300 мільёнаў долараў. Але гэта праблема з'явілася з-за крызісных з'яваў ва ўсім рэгіёне, не толькі ў нашых краінах.

Што датычыць палітычнага ўзроўню, то ў нас з Беларуссю ёсць прагматычныя стасункі, асаблівасць якіх – інтэнсіўнасць нашых кантактаў. І летась, і сёлета мы практычна кожны тыдзень абменьваемся дэлегацыямі розных ведамстваў Літвы і Беларусі, каб вырашаць канкрэтныя пытанні.

У хуткім часе мы плануем падпісаць дамову наконт транзіту беларускіх грузаў праз порт Клайпеда. Збіраемся падпісаць дакументы наконт супрацоўніцтва ў чыгуначнай галіне, у сферы паветраных зносінаў.

Мяркую, што мы не выкарыстоўваем усе магчымасці прамых кантактаў паміж літоўскімі і беларускімі гарадамі. Мы цяпер думаем пра правядзенне дзён культуры Вільнюса ў Мінску. Існуюць добрыя сувязі паміж нашымі ВНУ. Напрыклад, паміж Вільнюскім універсітэтам і Беларускім дзяржаўным універсітэтам. У бліжэйшы час актывізуецца сувязі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта з Вільнюскім педагагічным універсітэтам. На сённяшні дзень нашыя культурныя сувязі вялікія, але даволі хаатычныя.

***— Беларусь вінаватая Літве вялікую суму грошай за электраэнергію, што пастаўлялася з Ігналінскай АЭС. Ці вырашаецца цяпер гэтая праблема і якім чынам?***

— Сапраўды, такая праблема існуе. Раней быў прагрэс, і запазычанасць скарацілася з 100 мільёнаў долараў да 60. Цяпер, на жаль, запазычанасць зафіксавалася на гэтым узроўні. Нам нават прыйшлося прыпыніць пастаўкі электраэнергіі з Ігналіны ў Беларусь.

Тут абодвум бакам, у тым ліку і літоўскаму, мушу прызнаць – трэба прыкладаць больш намаганняў і шукаць новыя падыходы, каб змяніць сітуацыю. Абодва бакі працуюць над гэтай праблемай, і мяркую, што мы мусім да канца гэтага года яе вырашыць. На маю думку, гэтае пытанне псіхалагічна замінае нашым эканамічным стасункам.

***— Ігналінская АЭС знаходзіцца зусім побач з беларускай мяжой. Таму вельмі актуальным нам прадстаўляецца пытанне аб надзейнасці яе бяспекі. Ці не збіраецца Літва ўвогуле адмовіцца ад выкарыстання атамнай энергіі і закрыць АЭС?***

— У Беларусі шмат хто кажа, што Еўрасаюз даў нам жорсткае заданне закрыць Ігналінскую АЭС. Сапраўды, некаторыя палітыкі ў ЕС выказвалі такое меркаванне. Аднак Літва летась прыняла праграму развіцця энергетыкі, і мы самі паставілі сабе такую задачу – закрыць да 2005 года першы блок Ігналінскай АЭС. А пра другі мы нічога не кажам.

Я ведаю, што ў Беларусі вельмі актуальнае пытанне наконт ядзернай бяспекі. Мы ўклалі некалькі соцень мільёнаў долараў у сістэму бяспекі АЭС. Мушу сказаць: на гэты момант Ігналінская АЭС не прадстаўляе сабой ніякай небяспекі. За працай станцыі ўвесь час сочаць дзяржаўнае агенцтва па атамнай энергетыцы Літвы, сочаць шведскія эксперты. І хоць тып рэактара там такі самы, як у Чарнобылі, аднак яны не аднолькавыя. Нашыя рэактары болей новыя.

***— Паміж нашымі краінамі існуе візавы рэжым перасячэння мяжы. Ці не збіраецца Літва неяк аблегчыць існуючае становішча? Ці наадварот, рыхтуючыся да ўступлення ў Еўрасаюз, ускладніць гэты парадак?***

— Візавы рэжым паміж нашымі краінамі быў уведзены ў сакавіку 1994 года, і рэаліі такія, што ён мусіць застацца. Гэта абумоўлена не толькі нелегальнай эміграцыяй, але таксама эканамічнымі і іншымі інтарэсамі нашых краінаў.

На сённяшні дзень існуе шмат выключэнняў для нашых грамадзянаў. Напрыклад, людзі пенсійнага ўзросту ездзяць без візаў. Для дзяцей да 16 гадоў – візы бясплатныя, для тых, хто едзе ў Літву вучыцца, – таксама. Мяркую, што па меры ўступлення Літвы ў Еўрасаюз нам прыйдзецца зрабіць нейкія змены ў гэтым рэжыме.

***— Калі Літва плануе ўступіць у Еўрасаюз і што ёй для гэтага трэба зрабіць?***

— Напрыканцы мінулага года Літва атрымала афіцыйнае запрашэнне на пачатак перамоваў аб уваходжанні ў Еўрасаюз. І цяпер з асаблівай інтэнсіўнасцю мы працягваем узгадняць нашу юрыдычную базу з юрыдычнай базай краінаў ЕС. Гэта датычыць усіх сфераў жыцця нашай дзяржавы – эканамічнай, юрыдычнай, культурнай, экалагічнай...

Варта зазначыць, што ў Літве большасць людзей падтрымліваюць імкненне ўступіць у ЕС. Хаця, канешне, ёсць і еўраскептыкі. На жаль, мы ўдзяляем мала ўвагі пытанням публічнай дыпламатыі – тлумачэння сваім людзям, што менавіта гэты саюз дае. Мы маем мэтай скончыць усе прамыя перамовы да канца 2002 года, а ў 2004 годзе пачаць працэс уваходжання.

**— А што ўваходжанне ў Еўрасаюз можа даць Літве?**

— Літва стане членам развітага, моцнага і вялікага рынку. Рынак краінаў Еўрасаюза – з высокімі стандартамі, і калі Літва будзе адпавядаць гэтым стандартам, то гэта будзе вялікае дасягненне для нас.

Канешне, мы мусім перапрафіляваць некаторыя свае вытворчасці, у тым ліку і сельскую гаспадарку, але мы таксама будзем мець магчымасць карыстацца некаторымі праграмамі перапрафілявання, і тут ЕС дапаможа нам. Апроч таго, мы атрымоўваем гарантыі эканамічнай бяспекі.

***— Ці можаце вы прывесці некаторыя прыклады тых зменаў, якія адбыліся ў Літве менавіта з мэтай уваходжання ў Еўрасаюз?***

— Я магу сказаць, што ўжо атрымала Літва: напрыклад, нашы грамадзяне едуць ва ўсе краіны Шэнгена – Германію, Францыю, Іспанію, Бельгію, Галандыю і г. д. – без візы.

***— А чым давялося ахвяраваць?***

— Павялічылася канкурэнцыя паміж нашымі таварамі і таварамі Еўрасаюза. Тут нам цяжэй. Мы прынялі правілы Еўрасаюза і цяпер не можам проста абараняць літоўскія тавары. Мы з'яўляемся ўдзельнікамі больш шырокага рынку.

*Гутарыў*
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## ДАВЕДКА нашай свабоды

**Надзвычайны і паўнамоцны амбасадар Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Йонас Паслаўскас, 42 гады, скончыў філалагічны факультэт Вільнюскага універсітэта па спецыяльнасці выкладчык англійскай мовы. Вывучаў дыпламатыю, міжнародныя эканамічныя і прававыя адносіны ў Жэневе, стажыраваўся ў МЗС Фінляндыі і Швецыі. З 1990 года ствараў службу пратакола ў МЗС Літвы, быў яе кіраўніком. Два гады працаваў у літоўскай амбасадзе ў ЗША саветнікам па палітычных справах. У Беларусі працуе з 1999 года. У Мінску жыве з сям'ёй. Жонка, Даля, па прафесіі філолаг, перакладчык. Сын вучыцца ў пятым класе, дачка – у другім класе «нармальнай беларускай школы».**

# В Канаду или Австралию?

Татьяна НОВИКОВА

**Наш политический строй подталкивает людей к поискам более перспективных мест жизни. Часто реклама или советы друзей оказываются единственным аргументом в пользу выбора страны переселения. Простота представлений питает целый бизнес, переходящий на рынок недвижимости и в сферу услуг по обе стороны границы. Информация здесь спасает не просто деньги, но и судьбы.**

## Вид на жительство

Канада — одна из стран, где действуют программы официальной иммиграции. Это значит, что любой гражданин любой страны может обратиться в канадское посольство с просьбой о гражданстве. Успех зависит от многих факторов — возраста, знания языков, образования, профессии.

В Канаду относительно проще (чем в США или Австралию) получить визу с видом на жительство. Для претендентов на американское гражданство сначала нужно выиграть в лотерее — получить так называемый грин-кард. Кроме того, для канадской визы не нужно проходить компьютерный языковой тест, такой как Тоэфл (США) или его аналог в Австралии.

Наиболее распространена и популярна (судя по статистике) так называемая «свободная иммиграция». По этой статье проходят люди, способные самостоятельно себя обеспечить, в отличие от тех, кому по статусу полагается социальная поддержка. Эта категория иммигрантов должна подтвердить свою состоятельность, зачислив на свой счет в Канаде 5.500 долларов США. Этих денег, по тамошним подсчетам, должно хватить на полгода. За это время свободный переселенец должен подыскать себе работу или «закрутить» свой бизнес.

У обладателей вида на жительство по статье «свободная иммиграция» есть некоторые привилегии перед гражданами страны. Им полагаются бесплатные курсы по канадскому английскому языку, профессиональной подготовке, а также специальные социальные гарантии и дотации. Однако, перед тем как получить гражданство, «свободный» должен провести в стране четыре «несвободных» года. Ему нельзя покидать ее дольше, чем на 6 месяцев в году. Иначе, претензии на поселение рассматриваются как несерьезные.

Посреднические фирмы предлагают «свободную иммиграцию», потому что она наиболее проста. Но, что важно, наиболее затратна. Помимо обязательных посольских сборов и взносов, посредники берут четырехзначные суммы за правильное оформление анкет на английском языке. Часто услуги посредников не спасают от провала, людям ненужных профессий и без знания языка отказывают. Неудачи бывают и после личного собеседования в посольстве. В этом случае порядочный посредник возвращает сумму задатка, часто не превышающую 1.000 долларов.

(Замечу, что белорусов обслуживает посольство Канады в Варшаве, а не в Москве.)



## Виды на жизнь

Для получения статуса «свободного иммигранта» нужно быть здоровым. Требуют справку о том, что состояние претендента не потребует длительной госпитализации. Поэтому если вы молоды и здоровы, а также быстро (до полугода) потратили свои 5.500 долларов США, не верьте, что в Канаде вам обязательно дадут вэлфер. Для получения социального пособия «свободный» должен представить серьезные объяснения факта безработицы или дефицита его бюджета. Аргументом может стать временная недееспособность, невозможность найти работу и так далее. Часто пособие не превышает 1.100 долларов, оно может быть и совсем небольшим. В то же время существуют разные денежные пособия — от разовых до ежемесячных. Получают, как правило, сразу несколько «социалок», от разных программ или фондов.

Для иммигрантов существует специальный рынок жилья. Вновь прибывшим подыскивают сравнительно недорогие варианты. Платить за жилье, конечно, придется. В центральной части города (но не на «уолл-стритт» и не в историческом центре) за 4 комнаты — примерно 450 долларов в месяц.

## «Май, мир, ...»

Хорошая работа - это, как известно, неплохие деньги. Чтобы хватило на дом, нужно, как минимум, 8.000 — 10.000 долларов в месяц. Как на самом деле?

Компьютерные специалисты, выигравшие конкурс на вакантную должность, с опытом работы с самыми последними пакетами и системами, умеющие (что немаловажно) работать в группе, получают до 95.000 в год. Это меньше обозначенной выше суммы.

Журналист «фри-лэнс» (свободный) как противоположная компьютерщику категория во многих смыслах, с опытом работы и великолепным знанием языков получает от 1.500 до 3.500 долларов в месяц.

И те, и другие в 2000 году будут пользоваться спросом, согласно прогнозам крупнейших канадских ассоциаций, работающих на рынке труда. Труднее будет тем, кто занят в сфере обслуживания. И совсем нет возможностей для неквалифицированных. Канадская промышленность полностью автоматизирована.

## Варианты

Для того чтобы хорошо зарабатывать «там», не обязательно иммигрировать. Например, Канада, в отличие от стран ЕС, не только не запрещает, но и приветствует труд иностранцев. Там есть государственные программы, дотирующие привлечение высококвалифицированных иностранных специалистов на предприятия.

По стандартам, разработанным ассоциациями защиты труда, высоко квалифицированным считается тот, у кого есть высшее образование и связанный с ним опыт работы. Приветствуются научные степени и обучение в аспирантуре. Кроме того, образование должно быть признано в Канаде. Иногда для этого достаточно бумаги из уполномоченного в этой стране профильного вуза. Для работы по некоторым специальностям необходима лицензия, за которую нужно платить, иногда большую сумму. Однако это касается тех профессий, которые связаны с ущербом для здоровья или какими-либо опасностями.

Чтобы лучше сориентировать специалистов (а они могут приехать из любой страны, ЕС или США не исключение), канадское правительство предлагает землям, крупным городам и предприятиям самостоятельно рекламировать возможности и перспективные вакансии. В любом случае для визы обязательно понадобится контракт с нанимателем.

*Стоит разобраться во многих тонкостях, полагаясь при этом только на официальную информацию. Она свободно предлагается посольствами и другими связанными с ними учреждениями.* ■

ПРАФСАЮЗЫ

# Гульня ў прэферэнцыі

## У прафсаюзным асяроддзі – сварка. У змазе за існаванне незалежныя прафсаюзы пагарджаюць інтарэсамі адзін аднаго

Міхась КАРПОВІЧ

**Крыху гісторыі. 26 студзеня 1999 года з'явіўся прэзідэнцкі дэкрэт №2 «Аб некаторых захадах па ўпарадкаванні дзейнасці палітычных партыяў, прафесійных саюзаў, іншых грамадскіх аб'яднанняў». Дэкрэт, у прыватнасці, патрабаваў перарэгістрацыю ўсіх прафсаюзных аб'яднанняў і іхніх структураў.**


ДНЫ ПРАФСАЮЗ БЕЛАРУСКІ
Савет
BELARUSIAN TRADE U...
Counc... of Belarusian Trade U...
Вице-премьеру Республи...
Министру иностранных ...
Республики Беларусь ...
Уважаемый Урал Рамдракович!

Падчас перарэгістрацыі Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП), які аб'ядноўвае асноўныя незалежныя прафсаюзы, сутыкнуўся з цэлым шэрагам цяжкасцяў. Па сцвярджэнні прэзідэнта БКДП Віктара Бабаеда, кіраўнікі многіх прадпрыемстваў спрабавалі зліквідаваць прафсаюзныя структуры, спасылаючыся на дэкрэт. Такім чынам, стала парушацца Канвенцыя №87 Міжнароднай арганізацыі працы (МАП), якую ратыфікавала і Беларусь.

Адчуўшы ўціск і парушэнне сваіх правоў, незалежныя прафсаюзы паскардзіліся на беларускія ўлады ў МАП. Адным з вынікаў такога кроку стала рашэнне Кангрэса ЗША пазбавіць Беларусь рэжыму найбольшага спрыяння ў гандлі (гэтак званых гандлёвых прэферэнцыяў). На практыцы пазбаўленне прэферэнцыяў азначае, што на беларускія тавары, якія экспартуюцца ў ЗША, накладваюцца падвышаныя мытныя пошліны, і такім чынам беларуская прадукцыя становіцца неканкурэнтаздольнай. Па словах Віктара Бабаеда, ад санкцыяў у асноўным могуць пацярпець такія буйныя прадпрыемствы, як «Шкловалакно», «Хімвалакно», «Азот» і г. д. Магчымы эканамічны «эфект» — дзесяткі і сотні тысяч незробленых долараў. І ўсё гэта — з-за прэзідэнцкага дэкрэта аб перарэгістрацыі прафсаюзаў.

Эканамічныя санкцыі ЗША супраць Беларусі мусілі пачаць сваё дзеянне 1 лютага гэтага года. Аднак гэтага не здарылася. Чаму?

Як высветлілася, прэзідэнт Свабоднага прафсаюза Беларускага (СПБ) Генадзь Быкаў аднаасобна накіраваў у Кангрэс ЗША ліст з просьбай адтэрмінаваць увядзенне санкцыяў на месяц. Ліст адыграў сваю ролю – амерыканцы прыслухаліся да просьбы Быкава і адклалі гандлёвыя рэпрэсіі на 6 тыдняў, да 15 сакавіка.

Па словах Быкава, ён такім чынам «пайшоў насустрач» беларускаму міністэрству замежных справаў, з якім у СПБ была папярэдняя дамоўленасць аб «супрацоўніцтве». Быкаў сцвярджае, што МЗС ужо некалькі месяцаў дапамагаў ягонаму прафсаюзу – дзякуючы намаганням гэтага ведамства прыкладна на 10 буйных прадпрыемствах Беларусі былі адноўленыя ці захаваныя структуры СПБ.

Нам патрапіла копія факса, у якім Генадзь Быкаў звяртаецца да віцэ-прэм'ера і міністра замежных справаў Беларусі Урала Латыпава са скаргай: маўляў, мы вам дапамаглі, паведамілі пра магчымае ўвядзенне санкцыяў, па вашай просьбе звярнуліся да Кангрэса ЗША, каб адтэрмінаваць рэпрэсіі – а «аддачы» няма. *«Усе дакументы, што ідуць ад урада, засталіся простай дэкларацыяй. Чыноўнікі на месцах абсалютна ніяк не рэагуюць на гэтыя дакументы або робяць выгляд, што такіх дакументаў не існуе...»*, – піша Быкаў у МЗС. І адразу пагражае: *«Свабодны прафсаюз Беларускі афіцыйна заяўляе, што вымушаны звярнуцца да ўрада ЗША з просьбай увесці эканамічныя санкцыі адразу пасля заканчэння шасці тыдняў, на якія ўвядзенне эканамічных санкцыяў было па нашай просьбе адтэрмінаванае. Акрамя таго, мы маем намер звярнуцца да прафсаюзаў Германіі, Францыі, Польшчы, Вялікабрытаніі, Літвы па салідарную падтрымку... Уся адказнасць за непазбежныя негатыўныя наступствы цалкам кладзецца на існуючую ўладу і яе прадстаўнікоў, якія не выконваюць законы дзяржавы»*.

Шэсць тыдняў, пра якія піша Быкаў, скончыліся 15 сакавіка. Кіраўніцтва ЗША так і не ўвяло эканамічныя санкцыі супраць Беларусі. Няма і прагрэсу ва ўрэгуляванні канфлікту між беларускімі ўладамі і незалежнымі прафсаюзамі. У размове з карэспандэнтам НАШАЙ СВАБОДЫ прэзідэнт СПБ казаў ужо, што *«дае ўладам яшчэ два тыдні»* — а потым ужо будзе звяртацца да замежнікаў па падтрымку. Зрэшты, сам жа Быкаў заявіў, што «пагроза ўвесці эканамічныя санкцыі – болей дзейсная, чым само ўвядзенне». Маўляў, санкцыі ўвялі – і ўсё, амба. А так можна яшчэ пэўны час шантажаваць улады.

Іншага пункту гледжання прытрымліваецца прэзідэнт БКДП Віктар Бабаед. Па ягоных словах, Быкаў «патрапіў на кручок» уладаў – і цяпер мусіць рабіць тое, што яму скажуць.

Як паведаміў Бабаед, за грубае парушэнне інтарэсаў незалежных прафсаюзаў членства СПБ у БКДП прыпыненае.

Падвядзем вынікі: спроба амерыканскага парламента «навучыць» Беларусь паважаць правы прафсаюзаў правалілася. Прафсаюзы замест таго, каб адстойваць правы працоўных, шпыняюць адзін аднаго. Пры гэтым церпіць агульная справа: увядзенне эканамічных санкцыяў супраць Беларусі сапраўды магло б змяніць стаўленне ўладаў да праблемаў прафсаюзаў – аднак цяпер будзе куды цяжэй дабіцца таго, каб амерыканцы зноў заняліся вырашэннем беларускіх праблемаў. Іх можна зразумець -- калі беларускія прафсаюзы самі не могуць дамовіцца аб правядзенні агульнай лініі ў дачыненні да ўладаў, то чаму гэтым мусяць займацца іншыя краіны? ■

ДАВЕДКА нашай Свабоды

Свабодны прафсаюз Беларускі ўваходзіць у Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў. Па розных сведчаннях, СПБ мае да 5 тысяч чалавек.

Апроч СПБ, у Беларускім кангрэсе дэмакратычных прафсаюзаў прадстаўленыя Беларускі незалежны прафсаюз (10-11 тысяч чалавек), Свабодны прафсаюз металістаў (каля 2 тысяч чалавек) і Дэмакратычны прафсаюз транспартнікаў (500 чалавек). ■

СОЦЫУМ

# У Белавежы яек не шкадуюць

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

**Беластоцкая пракуратура завяла справу супраць людзей, якія закідалі яйкамі міністра аховы навакольнага асяроддзя Польшчы А.Такарчука. Вызначаць асобы хуліганаў паводле відэазапісу, зробленага для тэлебачання.**

Міністр прыязджаў у Белавежскую пушчу, каб угаварыць жыхароў пашырыць гэты нацыянальны парк, рашэнне аб чым ужо прынятае. Сталічныя ўлады прапануюць развіваць турызм, але мясцовае насельніцтва, сярод якога шмат беларусаў, лічыць, што толькі павялічыцца беспрацоўе. Для стварэння турыстычнай інфраструктуры патрэбны вялікія грошы.

Управа Беларускага саюза ў Польшчы распаўсюдзіла заяву адносна далейшага лёсу беларускай меншасці, зважаючы на рашэнне міністра. У заяве звяртаецца ўвага таксама на тое, што ў сакавіку ўлады зліквідавалі чыгуначны маршрут, які пралягае праз гэтую мясцовасць. Раней быў спынены рух на чыгунцы Беласток—Белавежа. Гэта скарачае колькасць месцаў працы і вядзе да «цывілізацыйнай дэградацыі» тэрыторыі, зазначаецца ў заяве, падпісанай старшынёй БС Я.Вапам.

Як паведамляе беластоцкая газета «Ніва», Саюз гмінаў Белавежскай пушчы накіраваў пратэст польскаму ўраду, патрабуючы стрымаць увасабленне праекта міністэрства аховы навакольнага асяроддзя. Падлічана, што могуць страціць працу 1.500 чалавек, а 100 дробных дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў будуць зачыненыя. Быў створаны камітэт пратэсту жыхароў Гайнаўскага павета. На паседжанні рады Гайнаўскай гміны зазначана, што ў пратэсце, які будзе накіраваны польскаму прэм'еру Е.Бузэку, трэба адзначыць, што ў гэтай мясцовасці жывуць беларусы. Адзін з польскіх навукоўцаў прапанаваў вырашыць іх пытанне наступным чынам: вывезці мясцовае насельніцтва і рассяліць у іншых рэгіёнах Польшчы. ■

# Полацкая Сафія

## Новы погляд на гісторыю славутага храма

Сяргей ТАРАСАЎ

**Полацкі Сафійскі сабор – сёння адзіны дакладна вядомы і вывучаны беларускі храм XI ст. Ад яго мы адлічваем пачатак мураванай культавай архітэктуры на Беларусі. Ён згадваецца ў «Жыцці Еўфрасінні Полацкай», у летапісах, маюцца яго выявы на малюнках XVI ст.**

За многія гады вывучэння храма ўсталявалася думка аб непасрэднай сувязі полацкай Сафіі з кіеўска-наўгародскай архітэктурнай традыцыяй. Кіеўскі, наўгародскі і полацкі храмы неадноячы супастаўляліся і параўноўваліся. На гэты конт маецца вялікая бібліяграфія. Аднак, на вялікі жаль, з-пад увагі даследчыкаў выпаў той факт, што разам з канстанцінопальскім саборам гэта былі не адзіныя цэрквы, якія будаваліся ў гонар Мудрасці Божай на славянскіх хрысціянскіх абшарах. У першым дзесяцігоддзі XI ст. на Балканах у г. Ахрыдзе (сучасная Македонія) быў збудаваны храм Святой Сафіі, які па сваёй канструкцыі адносіцца вучонымі да базілік візантыйскіх правінцыяў.

Калі пагладзець на план полацкай Сафіі без уліку галерэяў, то відавочна, што яе тры асноўныя нэфы маюць яўныя прыкметы базілікальнасці: яны злучаныя скляпеннямі. Асноўны аб'ём Сафіі ў Ахрыдзе (паводле планаў югаслаўскага даследчыка В.Корача) – 27,5 х 17,6 м. Асноўны аб'ём Сафіі ў Полацку – 27,7 х 17,5 м. Дзіўным чынам супадаюць і іншыя велічыні.

Паўстае пытанне: ці магла ахрыдская Сафія быць прататыпам полацкага храма?

Будаўніцтва кафедральных храмаў на еўрапейскіх землях адпавядала складаўшымся дзяржаўна-тэрытарыяльным падзелам X–XI стст. Уплыў Візантыі як з пункту гледжання распаўсюджання хрысціянства, так і ў мураваным дойлідстве бясспрэчны. Але храмы ў выглядзе базілік будаваліся толькі за межамі Канстанцінопаля. Апрача таго, яны ўзводзіліся толькі як кафедральныя саборы. Кафедральнымі былі і тры ўсходнеславянскія Сафіі. Іх аднолькавае падабенства даследчыкі тлумачылі тым, што, нягледзячы на княскія міжусобіцы, царкоўная арганізацыя ўсіх «рускіх земель» была адзінаю. Але як раз гэта не можа быць прынятае як бясспрэчны факт.

Да канца XI ст. мы не маем сведчанняў аб адзінстве царкоўнай арганізацыі Кіева, Ноўгарада і Полацка. Усталяванне епіскапіяў у 992 г. – яшчэ не доказ іх адзінства. Хутчэй трэба думаць пра роўнасць іх паміж сабою. А пастаўленне полацкага епіскапа Нікіфара ў 1092 г. мітрапалітам кіеўскім сведчыць аб залежнасці трох першапачатковых славянскіх дзяржаваў ад знешняй духоўнай епіскапіі.

З гэтага пункту гледжання цікава, што Ахрыдская епіскапія была роўнаю Канстанцінопальскай патрыярхіі менавіта да сярэдзіны XI ст., пакуль разам з 1-м Балгарскім царствам не была падпарадкавана Візантыі. На 8-м Усяленскім Саборы ў Канстанцінопалі (870 г.) балгарская царква была прызнаная кананічнаю. Наступны Сабор (879–880 гг.) зацвердзіў аўтакефальнасць балгарскага архіепіскапата, і балгарскі дыяцэз быў выключаны са спісаў Канстанцінопальскай епархіі. Гэта спрыяла развіццю балгарскай царквы і яе самастойнай місіянерскай дзейнасці. У 893 г. Клімент Ахрыдскі (вучань св. Кірыла і аўтар альфабета, які мы сёння называем «кірылічным») стаў першым епіскапам-славянінам. А праз 10 гадоў ён жа стаў балгарскім архіепіскапам. Архіепіскапія пераўтварылася ў патрыярхію і захоўвалася такою да 1084 г. Ад 90-х гг. IX ст. уся справаводчасць, пісьмовасць у Балгарыі вялася на балгарскай мове, якая вядома ў нас як «царкоўна-славянская».

Даўно і многімі даследчыкамі абгрунтавана выказвалася думка, што першапачаткова «руская» царква ўваходзіла ў склад ахрыдскага патрыярхата, а не канстанцінопальскага. У сувязі з гэтым відавочныя паралелі полацкай Сафіі і ахрыдскай наводзяць на думку, што наш храм мог будавацца пад непасрэдным кіраўніцтвам балгарскіх майстраў. Менавіта яны маглі прынесці ў Полацк форму і памер базілікі ў Ахрыдзе, якія аказаліся фактычна нязменнымі нават з улікам новых нефаў пад галерэі. Менавіта яны маглі прынесці з ахрыдскай Сафіі ідэю вынесенай у паўночна-заходні кут лесвіцы на галерэю, якая была паўторанай у Чарнігаўскім Спасаўскім саборы, але не знайшла сабе месца ні ў кіеўскай, ні ў наўгародскай Сафіі, а толькі ў полацкай.



Храм Святой Сафіі ў Полацку, пабудаваны паміж 1055 – 1066 гадамі. Першапачатковы выгляд. Рэканструкцыя.



Новая полацкая Сафія, пабудаваная ў XVIII стагоддзі на фундаментах старой, зруйнаванай па загадзе Пятра I у 1710 годзе

Апрача таго, полацкая Сафія мела 7 галоў. З гэтым пагаджаюцца ўсе даследчыкі. У Кіеве – 13, у Ноўгарадзе – 5. Чаму? А ці не таму, што 7 галоў – сімвал 7 Усяленскіх Сабораў. Менавіта на гэтых першых Саборах былі закладзеныя ўсе пастулаты веравызнання. Менавіта рашэнні гэтых 7 Сабораў, нягледзячы на падзел хрысціянскай царквы ў 1054 г., да сёння прызнаюцца аднолькава і праваслаўнай, і каталіцкай царквою.

«Сямікупалле» полацкай Сафіі дазваляе дапусціць, што погляды на хрысціянскія дагматы ў Полацку маглі ў нечым не супадаць з кіеўскімі і наўгародскімі. Палачане маглі ў «піку» Кіеву адзначыць непарушнасць сімвалаў Сямі Сабораў у выглядзе сямі галоў свайго кафедральнага храма. А тое, што гэтае супадзенне не выпадковае, а глыбока прадуманая ўнутраная палітыка і перакананне, пацвярджае заклятце на Крыжы Еўфрасінні Полацкай, напісанае праз стагоддзе пасля будаўніцтва Сафійскага сабора. А там такія словы: «...будзе праклятым усімі святымі айцамі і Сям'ю Саборамі святымі...» Асобна трэба заўважыць, што «ўзброенае» рашэннямі Сямі Сабораў вера пачала распаўсюджвацца ў хрысціянскім свеце: Балгарыі, Сербіі, Маравіі. Гэтаму спрыяла дзейнасць Канстанціна Філосафа (827–869), яго брата Мяфодзія (820–885) і іх вучняў, сярод якіх асобна вылучаецца Клімент Ахрыдскі (840–916).

З'яўленне ў Полацку балгараў не выклікае здзіўлення, зважаючы на шляхі пранікнення хрысціянства на землі Усходняй Еўропы. Апрача таго, нас з Балгарыяй яднае тое, што ў дачыненні Візантыйска-Канстанцінопальскай мітраполіі ўсе мы (Кіеў, Ноўгарад, Полацк, як Арменія ці Грузія) былі правінцыямі. Таму не дзіва аднолькавасць рысаў і ў архітэктуры. Барацьба за самастойнасць на этапе стаўлення дзяржаўнасці яднала нас.

Можа таму ў XII ст. зноў з'яўляюцца ў нас дойліды з Балгарыі ці Сербіі – аўтары храма-трыконха ў полацкім Бельчыцкім манастыры. З перапіскі ахрыдскага архіепіскапа Феафілакта (1084–1108) вядома, якому прыгнёту з боку Візантыі падпадалі балгары, як ствараліся ў краіне калоніі з печанегаў, армянаў і турак з мэтай падзелу карэннага насельніцтва. З нядолі і нястачы некаторая частка балгараў пераходзіла за Дунай. Маглі быць сярод іх і дойліды, якіх запрасіў Полацк. ■

ВЫСТАВЫ

# «Испанская партия»

Татьяна НОВИКОВА

**Это было в Испании, лет десять тому назад. Ко мне подошла почтенных лет дама и затеяла разговор. «Я знаю, Вы из России», – сказала она. Тогда весь Советский Союз был для *них* Россией. Дама была из США, всю жизнь мечтала встретить русского человека и по странной иронии судьбы встретила «русскую» в испанской столице. О своем знании России ничего большего, чем «я мечтала», «русская березка» и «Достоевский», она рассказать не могла. В Мадриде эта особа изучала испанский язык... Возможно, воспылав к Испании похожей страстью.**



Фота Ул. ШЛАПАКА

Этот случай вспомнился мне после вернисажа «Испанской партии» в Музее современного искусства на прошлой неделе. Публике явились образы более сочные, чем березка и Достоевский — это классики испанского искусства: Гойа, Веласкес, Эль Греко, Федерико Гарсиа Лорка. Правда, вид у них неаутентичный, переработанный. Потрудилась над ними Любовь.

Это белорусские художники, которые любят великих испанских художников, сделали выставку. Там было много необычного — живопись, объекты, фрагменты неких ораторий, обрывки тиражированной графики, спичечные коробки с репродукциями испанских шедевров, а также часть постановки пьесы Гарсии Лорка в исполнении Витебского Академического театра. Автор идеи этого проекта — первый испанофил в современном белорусском искусстве Руслан Вашкевич. Любовь к испанским мастерам сделала ему славу уже лет пять назад. А на этот раз он сыграл с другими художниками в «испанскую партию». Испанофилия белорусских авторов выглядела на его фоне скромно (в количественном измерении), поэтому это был сеанс одновременной игры. Партнером в этой игре выступила и публика — пригласили всю минскую богему, как-то относящуюся к визуальным искусствам.

Я не знаю, «выиграл» Вашкевич или «проиграл» и что ему досталось в виде приза. Замечу только, что его хорошие работы просто «потерялись» на экспозиции, похожей своей хаотичностью на склад-конфискат. Там не было внятной идеи, мысли или образа. Мне даже показалось, что на выставку затесалась живопись, совсем к ней не относящаяся — просто ее не успели убрать. Может быть, Испания кажется им страной, где всегда карнавал и нелепица? А может быть, виновато пространство, остывшее от кабацкого духа «На ростанях», но и не привыкшее к искусству? Так или иначе, аргументов у кураторов выставки оказалось не больше, чем у американской пожилой леди с ее Достоевским и березкой. Апелляции к постмодернизму выглядели неубедительно. ■

КАНФЕСІІ

# Гонар і годнасць айца Іаана

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

**У Гродне нічым скончыўся свецкі суд паміж духоўнымі асобамі. Айцец Іван Спасюк судзіўся з епіскапам Арцеміем і епархіяльнай управай. Ён хацеў абараніць свае гонар і годнасць. Аднак пасля разбору справы суддзя Іван Грышкевіч адмовіўся прыняць спасыск.**

Год таму айцец Іаан выйшаў з-пад юрысдыкцыі Расійскай праваслаўнай царквы, далучыўшыся да замежнай Беларускай народнай праваслаўнай царквы. Епіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі Арцемій ужо толькі пасля гэтага адхіліў яго ад службы. З ініцыятывы царкоўных уладаў была распачатая крымінальная справа, паводле якой бацюшка прыцягваўся ў якасці сведкі. І.Спасюк сабраўся будаваць у пасёлку Пагранічны, дзе ён жыве, царкву і знайшоў спонсараў. На думку царкоўнага начальства, спонсарскія грошы выкарыстоўваліся не так, як належыць. Справа, аднак, была прыпыненая.

У снежні 1999 г. у газеце «Гродненские епархиальные ведомости» з'явіўся артыкул супраць Спасюка. Замест подпісу было пазначана, што інфармацыя належыць епархіяльнай управе. У артыкуле гаварылася, што Спасюк нібыта запляміў сябе і падазраецца ў адмыванні грошай. Абражаны хацеў спагнаць з епіскапа 50 мільёнаў дэнамінаваных рублёў і яшчэ 70 мільёнаў – з епархіяльнай управы. Аднак нічога не атрымалася. Суд збіраўся тройчы, каб нарэшце не прыняць спасыск. ■

